Год II. | Нядзеля 1 студня 1922 г. | № 1 .(9)

**Хто за лепшую будучыну Беларусі, хто за лепшую долю сялянскага люду—галасуйце у Віленскі Сойм!**

# РАНІЦА

штодзенная, грамадзкая, палітычная і літэратурная газэта

АДРЕС РЕДАКЦЫІ і КАНТОРЫ
Вільня, Вострабрамская № 4, „Hotel Szlachecki" пак. № 2.
Рэдакцыя адчынена што дня, апрача сьвят, ад 11 да 1 і ад 5 да 7 гадз.

**Цана нумару 20 марак.**
Падпіска на 1 мес. . . 400 марак.
З перасылкай 1 „ . . 500 „
За граніцай ў два разы даражэй.

ЦАНА АБВЕСТАК:
За адзін радок звычайнага друку на 1 стр.—60 м.
ў тэксьце . . . . . . . 75 м.
за тэкстам . . . . . . . 40 м.
Для шукаючых працы на 10 прац. таней.

## Беларусы! Усе на выбары, як адзін! Усе на абарону Бацькаўшчыны!

Рэдакцыя газэты „**Раніца**" вітае сваіх чытачоў з Новым Годам, і жадае ім найлепшага жыцьця і шчасьлівай долі!

*Рэдакцыя газэты просіць п. падпісчыкаў высылаць у пару грошы за газэту. Калі грошы ня будуць адтрымывацца, то высылка газэты будзе затрымана.*

Кантора газэты „**Раніца**" паведамляе, што магазынам выпісываючым газэту дзеля прадажы, кантора будзе рабіць 30 проц. уступкі.

## БЕЛАРУСЫ!

**Вашыя выбарчыя сьпіскі, за якія усе мусіце галасаваць як адзін.**

**Па Ашмянскаму вокругу сьпісак № 6.**

1. Аляксюк Павал.
2. Тарчэўскі Янка.
3. Карэнда Міхал.
4. Буткевіч Пётра.
5. Камароўскі Фэлікс.
6. Стрыга Аляксандар.
7. Субач Францык.
8. Ганусевіч Ігнат.
9. Родзька Андрэй.
10. Чыжэўская Мар'я.
11. Барчоўскі Язэп.
12. Семян Сьцяпан.

**Па Камайскаму вокругу.**

1. Шышкоў Васіль.
2. Бэкіш Янка.
3. Міхайлаў Фядот.
4. Цьвілэнь Марцін.
5. Барсукоў Васіль.

Выбарчы Камісар
Адам Курыловіч.

## Беларуская Прадвыбарная Акцыя.

Беларускі Выбарчы апарат ўжо зусім з'арганізаваны.

Цэнтральны Беларускі Выбарчы Камітэт месьціцца па **вул. Ахвярнай д. 4**; адчыняны увесь дзень.

Усялякія інфармацыі выдаюцца дзяжурным.

Акружныя Беларускія Выбарчыя Камісіі ўжо ад тыдня працуюць у **Ашмянах і Камаях**.

Першая выбарчая літэратура разаслана ў вялікім ліку экзэмпляраў.

Выбарчы Камісар п. **Адам Курыловіч**, аб'ехаў асабіста вокругі Ашмянскі і Камайскі.

Агульны настрой люднасьці прыхільны да выбараў.

Сьцьверджана, што шмат адозваў раскінута ўрадам Ластоўскага і партыяй эс-эраў.

Гэтыя дэмагагічныя звароты да народу ня маюць жадных водгукаў.

Выбарчыя сьпіскі на вокругі Ашмянскі і Камайскі аканчацельна зацьверджаны.

*Вільня 1 студня 1922 г.*

Яшчэ адзін год кануў ў бездну быцьця...

У гэты момант, калі канчаецца старае, і пачынаецца новае, невядомыя, людзі ахвотна робяць аналіз пражытага, падлічаюць рахункі, сводзяць ітогі...

І вось, калі мы духоўным векам узглянем на прошлы год, дык робіцца сумна, і сэрца сьціскае вялікая жаль:

У гэты крывавы год тысячы нашых лепшых сыноў — злажылі свае голавы ў Савецкай Беларусі, ратуючы сваю горача каханую зямельку ад наездчыкаў, маскоўскіх бандытаў.

Сколькі новых магіл, незарытых трупаў, зверскі забітых, зьмучаных нявінных людзей — матак, айцоў, маленькіх дзяцей!

Нікога і нічога ня шкадавалі маскоўскія-бандыты!..

А сколькі, выбітых з калеі жыцьця, скалечаных, змораных фізычна і духоўна, ідэйных барцоў за лепшую будучыну нашай многапакутнай зямелькі, дажываюць свае апошнія дні ў чужых вуглах, у чужых людзей якія ніколі ня зразу-меюць іх сэрдэчнай таскі і мукі, ня зразумеюць страшнай трагэдыі жыцьця гэтых людзей!

Страшэнны, крывавы, праклятьі год!

Ты разбіў і пахаваў глыбока нашы лепшыя надзеі! Ты адняў ад нас тысячы ідэйных барцоў, за губіў нашых дзяцей!

Мала гэтага, ты. рукамі маскоўскіх людаедаў — камуністаў, зьнішчыў большую палову нашай зямелькі, аграбіў працоўны сялянскі народ, і надзеў на яго кайданы цяжкай бальшавіцкай няволі!

А што зрабілі за цэлы год тыя, што як уцекачы, нашлі прытулак у братоў-палякаў, ці ў іншых народаў?

Што зрабілі для беларускага народу за граніцай беларускія „дзеячы," і тыя, што лічуць сябе „беларускімі ўрадамі? Гдзе плюсы іх дзейнасьці?

Пры гэтых пытаньнях зноў сэрца сьціскае глыбокая жаль...

Што зрабілі? Маглі зрабіць, але не зрабілі! Бо калі, хто першы зачынаў рабіць добрае, дык другі, трэці, чацьвёрты спешаліся з усей моцы памешаць яму...

Спешаліся закідаць яго каменьнямі, ня гнушаліся ўсялякімі спосабамі чарніць яго імя, рабілі ўсялякія крокі, каб не дапусьціць яго рабіць вялікую беларускую нацыянальную справу.

Партыйныя спрэчкі свядзеньне асабистых рахункаў, асабістыя сымпатыі і ўвялі верх над інтэрэсамі беларускага народу, над інтэрэсамі роднай старонкі.

Пражская нарада, на якой штучна выраблялiся пазорныя для ўсіх праўдзівых і ідэйных беларусаў рэзалюцыі, выявіла чорную душу людзей, лічучых сябе „Беларускім урадам", людзей, якія ня зразумелі, ні палітычнай сытуацыі апошняга часу, ні душы і сэрца свайго народу, яго пажаданьняў і настрою.

Як звёздачкі ў цёмную ночку блеснуў ў сьнежню „з'езд прадстаўнікоў Заходняй Беларусі ў Вільні, бляснуў сваім здаровым палітычным поглядам, сваім добрым настроям і надзеямі на лепшую будучыну.

Але і на гэтую зьвёздачку пасыпаліся подлыя навэты...

Цяжкі, мрачны, пракляты год! Скажам мы на развітаньне.

Пажадаем ад жчырага сэрца, каб Новы Год прынёс-бы нам новае жыцьцё!

Каб ня быў Новы Год такім страшэнным і подлым, такім крывавым годам, якім быў стары.

Каб быў-бы Новы Год, сьветлым годам праўды, годам забвеньня, прашчэньня, годам злучэньня і адбудаваньня нашай маткі Беларусі!...

## ТЭЛЕГРАМЫ.

БЭРЛІН. 31. XII. (А. В.). У Бэрліну з'явіўся першы нумар расейскага ліста „Крестьянское Дѣло", орган расейскага сялянскага саюза. Першай мэтай гэтай арганізацыі з,яўляецца злучэньне расейскай эміграцыі з сялянамі.

КАТАВІЦЫ. 31. XII. (А, В.). Міністар Альшэўскі атрымаў ад Цалёндэра дэпэшу з прозьбай, каб з прыбыцьцем камісіі спрацаваць плян аб'езду Горнага Шлёнзку польскага, а так і нямецкага.



